**Мікола Мінчанка**

# Давер

ВЕРШЫ, ГУМАР

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

## СЦЯГ МАЛАДОСЦІ

На зямлю мы прыходзім не ў госці:
Каб садамі зацвіў сухадол.
Камсамол — гэта сцяг маладосці.
Я з табою заўжды, камсамол!

Смела новыя песні запелі
Пра цябе мы, наш край дарагі.
На балотах жыты зашумелі —
Абнаўляем палі і лугі.

Далягляды нас клічуць імкліва:
Кожны дзень, кожны дзень адкрыццю.
Усміхаюцца зоры шчасліва
Маладому, як песня, жыццю.

Камсамол — гэта дужыя крылы.
Камсамол — гэта новы палёт.
І дае табе свежыя сілы
Разам з партыяй мужны народ.



Не ўсе пакошаны лугі —
Не ўсе дзяўчаты замуж выйшлі.
На вёсцы я зусім не лішні.
Я тут не ведаю тугі.

Яна далёка паплыла
Залётнай светлаю хмурынкай —
З вачамі сінімі дзяўчынкай,
Якая марай мне была.

Яна махае мне здалёк
Сваёй маленькаю рукою:
Расцвіў вясёла над мяжою,
Як напамінак, васілёк.

Гляджу ў здзіўленні зноў і зноў.
І адчувае сэрца свежа,
Як успамін душу мне рэжа,
І не знаходзяць вусны слоў.

## ВОСЕНЬСКІ ЭЦЮД

Схмурнелае голле.
Туман, нібы дым.
Нядаўна ж раздолле
Было залатым.

Пажар на асінах
Патушаць дажджы.
Да гронак рабіны
Зляцяцца дразды.

## Я ШЧАСЛІВЫ

Калі зямля абноўленага краю
Зноў налівае шчодра каласы,
Па ёй іду — і сэрцам адчуваю:
Яна — вытокі сілы і красы.

Ёсць на стале духмяны бохан хлеба —
Як сімвал дзён, адданых барацьбе.
За мірнае над галавою неба
Падзяку шлём мы, партыя, табе!

* * *

Ты так глядзела на мяне —
Ажно зіма памаладзела:
Як сонца чыстае ў акне —
Ты так глядзела.

І мне здалося, што даўно
Усё сокам чыстым налілося.
Ты — быццам светлае акно,—
Мне так здалося...

# РАСКАЖЫ, ДЗЯЎЧЫНАЧКА...

*(З народнага)*

«Раскажы, дзяўчыначка, раскажы:
З кім стаяла позненька на мяжы?»

«Раскажу ўсю праўдачку, раскажу,
Што завёў хлапчыначка на мяжу.

Там, дзе ў росах жнівеньскіх васількі,
Дакрануўся ціхенька да рукі,

Пасяліў у сэрца ён мне тугу:
Жыць без хлопца гэтага не змагу».

* * *

Я насустрач раніцы іду,
Каб наўкол было яшчэ больш светла,
Каб глядзела жыта так прыветна,
Не згадаць каб век нам злыбяду.

## АГОНЬ МАЛАДОСЦІ

У кожнага, відаць, у сэрцы ёсць
Цяпло, якое дорыць маладосць.

Яно вядзе праз белыя завеі
Туды, дзе нашы светлыя надзеі.

І каб цвілі вішнёвай кветкай дні,
Гарацць, як зоры ў ліпені, агні.

Агні тваіх двух ластавак-вачэй:
Зірнеш — каменне робіцца мякчэй.

Святлее ў дождж асенні далягляд,
І ўзімку сніцць пра квецень родны сад.

Яно заўсёды ў сэрцы добрым ёсць,
Цяпло, якое дорыць маладосць.

Яно вядзе праз белыя завеі
Туды, дзе нашы светлыя надзеі.

## НАШЫ ПЕСНІ

Кажуць, смутак у людзей — як слабасць.
Выпала пра іншае нам пець.
Нашы песні — гэта наша радасць:
Ім у свет, як птушкам, палятець.

Для палёту памужнелі крылы.
Кліча, кліча ў сіняву прастор.
Шмат патрэбна мужнасці і сілы,
Каб падняцца ад зямлі да зор.

## СПАДЧЫНА

Пасівелі яны,
Тых часоў камісары.
Ад вясны да вясны
Сэрца слабнуць удары.

Адлятаюць гады,
Тых байцоў больш не стане.
Нам яны назаўжды
Далі светлае ранне...

## ДРЭВА ПАЭЗІІ

Сухмень, быццам холад.
Маленькі быў жолуд.
А вырасла дрэва — здзівіла...
Пякучым быў холад,
Ды дрэва, як волат:
У голлі зноў радасць і сіла.

Няма паўтарэння.
Ды вечна здзіўленне
Парыў да жыцця выклікае.
Не зловіш з'яўлення
Святога імгнення:
Калі хто каго пакахае.

А час так імчыцца,
Жыццю не спыніцца,
Што новае дрэва ўзрасціла.
А як
Паўтарыцца,
Каб зноўку здзівіцца,
Што ў пошуме голля шмат сілы?

## ДНЯПРО

Бяжыць Дняпро і коціць хвалі.
Шуміць Дняпро, пяе Дняпро. 36
Сваю мы праўду не хавалі,
Дабром плацілі за дабро.

Цвітуць сады ля кожнай хаты,
Калі прыходзіць юны май.
І я шчаслівы і багаты,
Дзе магілёўскі родны край.

Бярозка вырасла прыкметна,
І ёй няма пра што тужыць.
Бяжыць Дняпро, а ў сэрцы светла:
І лёгка мне, і добра жыць.

Бяжыць Дняпро, ён коціць хвалі,
Шуміць Дняпро, пяе Дняпро,
Сваю мы праўду не хавалі,
Дабром плацілі за дабро.

2 Зак. 602

* * *

Ты паглядзі: на ўзлессі верасы,
Іх колер нагадаў мне зноў такое,
Што узбунтуе і — не супакоіць.
Бо верасы — апошні цвет красы.

І зноў грамы закованы ў зямлю.
Ды спалахне вясною бліскавіца.
І будзе дождж, і будзе навальніца,
І буду я шаптаць табе:
— Люблю.

* * *

Пад вярбой маладой
Ціха нехта шэпча:
— Дарагая, з табой
Шчасце кожны вечар.

Пад вярбой маладой
Рэчанька вуркоча:
— Мілы мой, мне з табой,
Нібы казка, ночка.

* * *

Залатая восень. Залатая.
А была, была ж я маладая.

Ці забыўся ты цяпер пра тое,
Як гарэла сэрца маладое?

Можа, гэта сэрца дагарае? —
Залатая восень, залатая.

* * *

Звініць, звініць, як песня, ручаёк.
Вясёлы ён, як мілае дзіця.
У тваіх вачах расцвіўшы васілёк —
Усмешка дарагога пачуцця.

У тваіх вачах мне невядомы сум.
І радасць, і вясна ў тваіх вачах.
Я да цябе ў каханні прынясу
Пачатак новага — як наш працяг.

Ты будзеш пець, каханне будзеш піць.
І будзе праўда, як шчаслівы сон...
Як песня, ручаёк звініць, звініць,
Як мілае дзіця, вясёлы ён.

## ПАСЛЯ СПРЭЧКІ

Зноў гудуць на лузе пчолы —
Не для прымхаў і забаў,
Каб ніколі не знікаў
Свет чароўны і вясёлы.

Так было і вечна будзе —
З самых розных кветак мёд.
Пра яго каторы год
Зноў гавораць, як аб цудзе.

На тваім шукаю твары
Я не смутак і не гнеў.
А сказаць табе хацеў,
Што вясной цвітуць і травы.



Замятае сляды
Лісцем роднай бярозы.
— Ты яшчэ малады.
І схавай свае слёзы.
Мілы мой, не сумуй:
Узыдзе твая зорка,—
Гавару я яму...
Што ж самому так горка?

# РАДАСНАЕ

Эх, рэчка бяжыць.
Побач грэчка цвіце.
Ну, як тут не жыць
У такой вось красе!
Навакол прыгажосць.
На зямлі я не госць.

Месяц спрытна прыпаў,
Каб напіцца вады.
Чую голас я траў:
«Ты яшчэ малады».
Шэпчуць ціха лугі:
«Пагуляй, дарагі».

А туман, як хлапчук,
Мые ногі ў рацэ.
Ажаніцца хачу,
Калі ліпа цвіце.
Ох, як ліпы цвітуць,
Дружна пчолы гудуць.

Ноч і дзень адышлі,
Ўсё зрабіўшы сваё.
Радасць мілай зямлі,
У маім сэрцы ты ёсць.
Радасць к сэрцу бяжыць!
Ну дык як тут не жыць!



Дзень, як птушка з белымі крыламі,
Адлятае ў вырай назаўжды.
І клубочкам коціцца над намі
Вобраз сонца, вечна малады.

Быццам ніткі, белыя праменні
Цягнуцца спагадліва да нас,
Каб агонь на сэрцы не пагас,
А жылі мы вечна ў захапленні

І каб любым вусны апякалі
Пацалункам ціхім уначы:
Дзеці — як кахання трубачы —
Праз стагоддзі ў свет нас заклікалі.

## У КУПАЛЬСКУЮ НОЧ

Я глянуў у вочы: што за прычына,
Бо нават і слоў у мяне не стае:
Папараць-кветка, дык гэта ж дзяўчына,
Якая са мною шукала яе.

* * *

Ноч. Паўстанак. І цягнік.
Снег. Спявае завіруха.
А на сэрцы скруха, скруха,
Быццам свет вясёлы знік.

Ты паехала. Няма.
Толькі рэйкі стогнуць глуха.
Толькі ў роце стала суха.
А наўкол — зіма, зіма.

Я іду: павольны крок.
Падсвядома адчуваю —
Быць яшчэ не скора маю:
У бярозах дрэмле сок.

Гром закованы ў зямлю:
У яе на гэта права.
Смутак злева, смутак справа,
Ці навек цябе згублю?

Быў паўстанак. Быў цягнік.
Снег. Спявае завіруха.
А на сэрцы скруха, скруха:
Быццам свет вясёлы знік.

## РОДНАЕ ПОЛЕ

Акопамі ў вайну ўсё поле зрыта,
Ды здолелі мы раны залячыць.
Ізноў шуміць тут залатое жыта.
І, значыць, людзям тут шчасліва жыць.

Нам не забыць мінулае ніколі.
Радзіму светлую сваю любіць.
І толькі абеліск на гэтым полі:
Баліць, як рана свежая, баліць.

* * *

Мяне жыта вучыла, што жыць —
Гэта не проста аб шчасці тужыць.
Гэта не гладкай дарогай ісці,
Жыць —
Дык змагацца
І праўдай свяціць.

## ЖУРАЎЛІНАЯ ЗІМА

Ты прасіла,
Каб я напісаў пра зіму.
Якая яна тут у нас? —
Халодная
І пякучая,
Быццам ты.
І вочы твае, як сняжынкі.
Жураўлі —
Нібы тыя ж лісты,
Што пішу да цябе.
Чаму ж не прыносяць яны вясны?

* * *

Учора вечар цёплы, мяккі быў,
Хоць журавы
Пра восень мне крычалі.
Я многае
З таго даўно забыў,
Як я кахаў
І як мяне кахалі.
З усіх трывог
І шчасця усяго
Лічу цяпер
Найлепшаю удачай,
Што не забыў яшчэ
Я аднаго —
Рукі тваёй,
Як сонейка,
Гарачай.

# БЕЛАРУСІ

У любові я табе не кляўся.
Пра яе табе нашэпча бор.
Пад тваім я небам гартаваўся
І выводзіў думкі на прастор.

Мне спазнаць усё сягоння трэба.
На душы такое пачуццё,
Што, калі Клімук падняўся ў неба,
Я зрабіў таксама адкрыццё.

Ў нас навокал сокалы такія:
Хоць і сёння ў космас ці на БАМ.
Я табе ўсе сілы маладыя
У кіпенні будняў перадам.

На балотах, як жыццё, каналы.
На пясках шуміць, гамоніць лес.
Нам шчаслівa зацвітае бэз:
І ўсе мы сягоння Магеланы.

Адкрываем, што дзе не адкрыта.
Толькі не журыся, дружа, ты:
Як і мы, ты будзеш сеяць жыта,
Бо баіцца поле пустаты.

І калі паклікала дарога,
Сэрцам зведай і любі свой край.
Каб аб ім жыла твая трывога,
Ты яе і сыну перадай.

## ГІТАРА

Мая гітара —
Зара,
На ёй грае
досвітак.
Сем струн —
Вясёлкі пасля дажджу.
Мая гітара —
Зара.
І песня яе —
Звон жаўранка
Ў чыстым небе,
Які
абуджае зямлю,
Крык сойкі адзінокай
У зімовым лесе.
Мой сум —
Чорная ноч,
Якая баіцца
Запальваць зоркі:
Хавае іх за шырму хмар.
Гітара!
Іграю,
Пяю
І журуся,
Каб зведаць
жыццё.
А яно,
Быццам птушка няўлоўная,
Праляціць —
Не даведаецца —
Што за рэч.
А ты грай мне,
гітара,

Грай!
Колерам нараджэння —
Зара.
Колерам нараджэння —
Ноч.
Мая гітара —
Зара.

## СНЕГАПАД

Такі прыгожы снегапад —
Над цэлым светам снег і снег.
Мароз, як ядраны арэх.
Такі прыгожы снегапад,
Як пяць, як дзесяць год назад,
Я чую твой шчаслівы смех:
«Такі прыгожы снегапад —
Над цэлым светам снег і снег...»

## ПАЎТАРЭННЕ

Як ноты, падаюць дажджынкі:
У кожнай музыка свая.
Нальецца жыта, каб зажынкі
Былі, як маладосць твая.

Тут засмяюцца ўвесну дзеці,
Якіх абмыў шчаслівы дождж.
Свае задумы ў ясным свеце
Праз іх з гадамі перамнож.

Як над магілай галашэнне,
Ты знікнеш між крутых начэй.
А іх памчыць да завяршэння
Пачатка новага ручэй.

І грукне ў новым доме брама,
Дзе серабрыцца ў ноч акно.
Дзяцей чакаць зноў будзе мама,
Як і раней, даўным-даўно.

## НАЛІВАЕЦЦА ЖЫТА ГУСТОЕ

Наліваецца жыта густое.
Тужыць сэрца маё маладое.

Калі б ведаў хто тую прычыну,
Пасадзіў бы ля дома каліну.

Каб цвіла яна буйна улетку,
А пад ёй я спаткаў бы суседку.

Гаварыў бы я з ёю да рання.
А на сэрцы б гарэла каханне.

Паказаў бы рукою на жыта,
Што маёю тугою спавіта.

Наліваецца жыта густое.
Тужыць сэрца маё маладое.

* * *

Гляджу на свет — не надзіўлюся.
Узмах крыла. З глыбіні плынь.
А [illegible] сэрца юнага цяплынь —
І я даверліва смяюся.

А неба, неба парасон
Ад бед надзейна прыкрывае.
Няўжо не сон? Няўжо не сон,
Што нехта і мяне кахае?

## РАННЕ

Працірае вочы спрасоння
Малады-малады сасоннік.
Ціха.
З хвіліны маўчання
Пачынаецца новае ранне...

## ЭКЗАМЕНЫ

Я здаў дзяржаўныя экзамены.
І вось той дом і той парог,
Дзе суцяшаюць вочы маміны
Пасля дарог, пасля трывог.

І лёгка марыцца пад ліпамі,
Што бацька некалі садзіў.
Як шанаваў ён водар ніў
І свет чароўны і вялікі!

А бацькі ўжо даўно няма.
Ён здаў суровыя экзамены,
Каб цвіў наш край, цвіла зямля.
Глядзяць журботна вочы маміны...

* * *

Бачылі і чулі? —
Трубіць мой ален.
У маёй матулі
У вачах — мой дзень:
Хмарыць лёс мой — слёзна.
Чыста — там блакіт...
Што ж гудзе трывожна —
Вецер ля ракіт?!

* * *

Дай зорам — цішыню,
А водам — вечны рух!
А людзям — чысціню:
Бальзам ад бедаў-скрух!

Навокал ліпацвет.
Дзень сонечны прыціх.
І цэлы белы свет
З табой нам — на дваіх...

## ЧЭРВЕНЬ, ГОД 1941

А лета цяжкае было.
Салдаты нашы адступалі.
Прышэльцам вёскі пакідалі,
Дзе вечна роднае жыло.

А лета цяжкае было.
Чырваназорцы паміралі.
Без трун, без родных іх хавалі.
Крывёй адзенне іх цвіло.

А лета цяжкае было.
Сыны не бачылі бацькоў —
Іх потым ведалі са слоў,
Як ліхалецце адгуло.

А лета цяжкае было —
І на Маскву вялі дарогі.
Ды спела праўда перамогі,
Каб наша ўсё-такі ўзяло!

* * *

Салавей замаўкае —
Песня дапета.
Язмін зацвітае —
Сярэдзіна лета.

Нязмоўкна на небе —
Звоніць жаўрук.
Пра хлеб ды аб хлебе —
Клопаты рук.

# ГАРОХ ПРАЗ СІТА

## ПРАМАЎЧАЛА

Піла казала: «Ела, ела дуб...»
Ды прамаўчала, што зламала зуб.

## ЦАНА ІГОЛКІ

А вожык недарэмна колкі:
Ён ведае цану іголкі.

## ДЫМ

— Са мной паасцярожней,— кажа дым,—
З агнём жыву дыханнем я адным.

## ПАЎТАРЭННЕ

Усё на свеце паўтараецца:
Як татка, сын сягоння лаецца.

## АДЗІНАЯ ЎЦЕХА

Нарэшце заяц скочыў цераз мост.
І ад ваўка, вядома, адарваўся.
Перад зайчыхай доўга выхваляўся:
— Як добра, што ў мяне куртаты хвост!

## І АСЛУ СМЕШНА...

Баран ды на казла адправіў ананімку:
«Пры барадзе улетку і узімку...»

Смяяўся нават і асёл:
«Які ж без барады казёл?»

## ХОВІ

Ён так ужыўся ў ролю падхаліма,
Што слоў не трэба. Глянеш: пантаміма.

## РЭЗЮМЕ ЗЕБРЫ

— І мы, як тыгры, паласатыя,
Вось толькі нешта не вусатыя.

## КАРОННЫ АДКАЗ

У вароны адказ быў заўсёды каронны:
— Па-сапраўднаму каркаюць толькі вароны.

## РАДАСЦЬ ВЕРАБ'Я

Верабей цяпер хваліўся так:
— Жыву, дзе некалі жыў шпак!

## РАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЛЕКЦЫЯ

У лекцыі было нямала рацыі:
«Гарэлка косіць не па адукацыі».

## ФІНІШ КАМЕНДАНТА

Пачынаў з камедый. Скончыў драмай:
Разышоўся з жонкай, у канфлікце [redacted] мамай.

## САМАСУЦЯШЭННЕ

Не знайшоў сабе ў паэзіі кутка
Авадзень стары літаратурнага гуртка.
Гаворыць ён, што слава — гэта дым:
Яна для ўцехі толькі маладым.

ЗМЕСТ

Мінчанка М.
М 61 Давер: Вершы, гумар.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 32 с.
10 к.

Малады паэт усхваляванa апявае родную прыроду, вёску, высакародныя пачуцці кахання і дружбы, праследжвае гістарычную сувязь мінулага нашага народа з яго слаўным сучасным, уважліва ўглядаецца ў будучыню. Ёсць у зборніку і вясёлыя гумарыстычныя карацелькі.

М $\frac{70403-195}{М\ 302(05)-80}$ 53—80

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Николай Никифорович Минченко

ДОВЕРИЕ

*Стихи, юмор*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак В. А. Губараў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

ІБ № 678

Здадзена ў набор 10.04.80. Падп. да друку 29.09.80. АТ 05196. Фармат $70\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,17. Ул.-выд. арк. 0,87. Тыраж 5000 экз. Зак. 602. Цана 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11. Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

